АКСАМІТНЫ ЖАХ
INTERNATIONAL EDITION
м. Гомель, 2001 рок, красавік месяц № 14

"Штосьці вы за моду ўзялі вершы на першай старонцы друкаваць – абураецца пане рэдактар – ці не замнога вершаў?" Маўляў, куды не зірні, паўсюль суцэльная паэзія, калі не паэзія дык лірыка, калі не лірыка, дык настальгія на горшы выпадак. "Дзе праўда жыцьця, дзе праблематыка, дзе канфрантацыя з "князем міра сего"? Такое ўражаньне, што мы не ў андэргараўндзе, не ў супраціве, не ў катакомбах... Суцэльнае згодніцтва, пасіўнае сузіраньне і супрацоўніцтва з уладамі", – гэтак абураўся пане рэдактар пабыўшы на нейкай анархічнай бяседзе і стуль выказваўся па-ірляндску бескампрамісна. Рэдакцыйнае паветра задрыжэла, гатовае раздзерціся рэзкаю спрэчкаю, але хтосьці міратворны прапанаваў сесьці паабедаць.

Згадзіліся, паабедалі, выпілі трошкі свойскага віна – ў акно ўвальвалася золата восеньскай суботы, яркае сусальнае сонца: ажылі на шкле



кастрычніцкія мухі, котка выбрала на падлозе цёплы сонечны кавалачак, зазьзяла віно ў кілішках і завярцелася лагоднае рэдактарскае кола: "А ці не з'езьдзіць нам у Добруш у наступныя выхадныя? Панове, давайце ўдала правядзем час... Дараженькія, пасядзім на беразе ля вады, пасмажым сасіскі, пап'ем віна... Разам з дзецьмі, з жанчынамі..."

І зноў усталяваўся трывалы аксамітны мір, лёгкі як павуцінка, а таму, як намі і было дакляравана, зьмяшчаем жменьку вершаў нашае шаноўнае аксамітнае аўтаркі Ларысы Раманавай, доўгачаканая публікацыя якіх, мяркуем, узвысіць аўтарытэт выданьня як сярод нэфармальных art-плыняў, гэтак і сярод афіцыйнай інтэлектуальнай генерацыі, а праз гэта, спадзяемся, ўзбуярыцца інтарэс да местачковае лірыкі, якая гэтым разам сьмела валодае сітуацыяй.

**Рэдакцыя**

# ПЯЛЕСТАК РУЖЫ
## вершы Ларысы Раманавай

* * *

Раніца - пялёстак ружы -
Пахне, раніць і цалуе.
Мёдам поўнае духмяных смолак
Ледзь ляціць пчала дадому
Ў залаты свой церам - вулей.

* * *

У чысты, цеплы,
беззаганны вечар,
Калі спакой зямны
атуліць плечы,
Зьнямога сыйдзе ў нікуды,
Садзьмуцца ветрам усе сьляды
Пакутаў, радасьцяў былых, -
Ты - не шкадуй аб іх!
Вазьмі ў далоні сьнег ці попел
Ці з соснаў цёмных
некалькі празрыстых кропель -
Ды паспрабуй на смак...
І - хопіць

* * *

Усё мана. І хутка пройдзе
Не трэба сумаваць па тым!
Мая рука, зямля і дзеці -
Не называй гэта сьвятым! -
Імгненныя у гэтым сьвеце.

* * *

Я ўспамінаю
сваю далекую радзіму:
сад белы, могілкі ў лесе
там зьбіраюцца ўсе сваe
Так много яшчэ жыць,
чакаць зіму і лета
і белым яблыкам калісь
упасьці на зямлю.

* * *

На аброчным крыжы
Мой ручнік вісіць
Не ручнік то -
мая душа ляціць
бліжэй к каменю
бліжэй к беламу.

* * *

Пакладзі сваё цела бяздомнае
паміж сноў, паміж неба
і зёлак...
На заваленым сьмецьцем ложку
будзеш спаць
як не спаў і анёлак.

* * *

Толькі што было тут
Маленькае птушаня
Зноў у нябёсах...

**Яна піша свае вершы бы чаўнок кідае, тчэ з радкоў чырвоныя знакі на белым палатне, зьвівае вяночак з красак і духмяных і калючых. Саў'е ды пусьціць па Беседзі – вадзе. І паплыве ён плыняю гнаны далей да высокіх берагоў. Сапраўды, працуючы ў задушлівых цэхах, альбо, як іншыя, ў офісах, дзе ад сьпекі не ратуе вентылятар фірмы Philips, часьцяком узгадваеш тыя высокія берагі. І хочацца як Леанарда да Вінчы сядзець на беразе хуткае плыні і замалёўваць бег струмянёў праз гаціну з мэтаю выдаць атлас "Віры і вадавароты Магілеўскай губерніі", альбо як тры танкісты, быць экіпажам баявой машыны, бо там таксама "перешлі границу у рекі".**

**Хочацца абавязкова вярнуцца туды, дзе ня быў аніколі і зусім не абавязкова калі ёсьць ваколіца, вароты, сенцы і покуць з сушаным лёнам за абразком, але калі трэба зьбегчы ад атакуючага гораду, ад тандэнтнага абшчагаўскага інтэрнацыяналізму, ад сьмярдзючай неахайнасьці мікраразёнаў лепей за ўсе адшукаць у вярхоў'ях вяртлявай рачулкі вёсачку, што яшчэ з курганных часоў зьбягае ў вільготны яр напіцца сьцюдзёнай крынічнай вады. Тады ясна адчуеш, што ўсе гэта ўпершыню бачанае ўжо даўно нарысаванае дзесь на глыбіні тваёй сьвядомасьці.**

**Розна бягуць дарогі і як даўней, калі ўсе яны прыводзілі да вадапою мы асьцярожна падбіраемся да кожнага новага сакавіка...**

Фота: А. Чыжоў. З фондаў Веткаўскага музэя народнае творчасьці



## Владимир Литвинов

Как по шатким мосткам, дрожащим под ногами,
как по весеннему льду - ненадёжному и хрупкому...
И не знаешь, где не выдержит, сломается...

Может рядом с берегом, на мелководье.
И лишь слегка замочишь ноги, и станет
смешно от собственного испуга...

Выйдешь из воды, разожжешь костер и высушишь одежду,
и оглянешься на сломанную досточку или треснувший лед.
Улыбнешься и пойдешь дальше.
Пойдешь... Если повезет...
А если нет?

И мостки рухнут посреди потока?
Если лед не выдержит над самой глубиной?

И пальцы будут судорожно хвататься за кромку
холодного льда, а отяжелевшая одежда будет тянуть вниз?

И никто не услышит крика и никто не протянет руку...
Что тогда?
Как по шатким мосткам, как по весеннему льду -
ненадежному и хрупкому... Шаг за шагом...

**март 1977**

За гэтым шматкроп'ем мог падпісацца любы інспектар Таварыства Выратаваньня на водах, спазнаўшы літаратурную форму выкладаньня правілаў і нормаў паводзін на рацэ падчас ледаставу. Але наўрад ці інспектары праніклёна зачытваюцца аксамітнымі матар'яламі, пагатоў, што ў іх мала канкрэтнасьці, бракуе маралі, не стае аптымізму. Але аксамітная алегорыя не пра падступную вутласьць лёду, а пра крохкасць нашага жыцьця-існаваньня, ўсяго гэтага тлуму. Бегаем, мітусімся, рызыкуем - бязьлікі броўнаўскі рух (і Броўн тут ні пры чым. Рэд.), але варта каму-небудзь сарвацца, праваліцца, выпасьці - аніхто не заўважыць. "А был лі мальчік?" - таксама паказальная літаратурная фраза.

Напісаныя болей за дваццаць год таму радкі і шматкроп'і выразна сьведчаць: анічога ня зьмянілася яшчэ з пачатку мінаючага стагодьдзя. І пытаньні асталіся тыя самыя і тырчаць яны як віткі, абазначаючы торную лядовую дарогу.

Але варта толькі прыўзьняцца над мітусьнёю "міра сего", прыўстаць на дыбачках над царамі і дзяржавамі, як відавочна паўстане за штодзённай драбязой яркі вабны далягляд, дзе дарога - ня бясконцы пакутны маршрут, а ўсяго толькі адрэзак напрыканцы якога зьзяе "небо в алмазах".

## Валерыч

Ад мытаря і да Матфея,
Мы прыцячэм да алтаря,
З аблады тлумнага жыцьця
Па-візантыйску непахісна.
Блісне чароўнаю маністай
Іскрынка вечнага быцьця.
Завабіць візэрка - дарога,
Дзе шлях - рукой дастаць да Бога,
Як дзякану да араря.

---

**Заўважылі? Ўлюблёны аксамітны вобраз - дарога. Чыгунка, гравійка, сьцяжына, рака: шнур, па якім рухаючыся мы мінаем нашае жыцьце. Канешне, можна правесьці ўвесь свой вольны час на канапе засынаючы ля тэлевізара з дыстанцыйным пультам у руках і пра дарогу не ўзгадваць, не думаць пра яе едучы ў шыкоўным СВ-вагоне цягніка Масква-Бэрлін з хуткасьцю 80-100 км/г, чытаючы часопіс "Arche" (Што за ён? - Шыхт.) і бяседуючы з панаднай спадарожніцай аб вартасьцях нямецкага экспрэсіянізма.**

**А вось цяпер параўнайце: ўлюблены вобраз нашага рэдактара - вогнішча, віно, сасіскі. Праўда да ўсяго гэтага трэба яшчэ дабрацца, таму дарога непазьбежна ўзьнікае другім нумарам, прычым заўжды прыводзіць да нейкага недалёкага райцэнтра. Ну вось напрыклад: "А ці не з'ездзіць нам у Добруш у наступныя выхадныя?" Адсюль вынікае, што горад, гарадок, мястэчка, паселішча ёсьць яшчэ адным неабходным чыньнікам аксамітнае сітуацыі.**

**Яно само па сабе някепска - з'ездзіць куды-небудзь, толькі калі фраза гучыць ўжо некалькі год запар, паўстаюць справядлівыя сумненьні адносна рэальнасьці такога экзерсіса. "Словно тиски, сжали меня жизненные обстоятельства" - пісаў Я.П. Стывенсан маладым індыйскім палеяантолагам ў адказ на запрашэньне да ўдзелу ў выданьні часопіса "Antropofagen und Traglođiten" (Божачкі ж мае... - Шыхт.). "Нет никакой возможности разорвать порочный круг житейских мелочей..." - ён жа ў скрусе адзначаў адмаўляючыся ад выгоднай прапановы ўзначаліць Беларускі Алмазны Фонд. Якаў Пятровіч як ніхто востра адчуваў горыч нерэалізаванасьці сваіх намераў і ў гісторыі зыходзячага стагодьдзя сярод яркіх яго прадстаўнікоў вылучаецца сімвалам няздзейсненасьці і несправджанасьці. Таму зыходзячы з вопыту нашых папярэднікаў, аксамітныя не бяруцца выконваць усяленскія задачы, далучацца да праграмаў ЮНЭСКА, ўдзельнічаць у фэстывалях і гала-канцэртах, а спраўджваюць свае прысядзібныя інтарэсы ў якіх прарастае зерне творчасьці, распускаюцца бутоны мастацтва, зьбіраецца ураджай традыцыяналізму.**

**Што за традыцыяналістыя такія? - дзівяцца грамадзяне арыентаваныя на маскультуру, дзяржаўную ідэялогію, ўсходнюю філасофію альбо тонкія эстэты крышталнага мастацтва, калекцыянеры рыцарскай настойлівасьці і фрэйлінскай недатыкальнасьці. "Еслі вы возраждаете белорусскую культуру - ходіте в лаптях" - сказала як адсекла адная інтэлігентная кабета, работнік культуры ў размове з традыцыянальна настроенымі маладзёнамі. Пасьля гэткіх дыялогаў цяжка спадзявацца на пацяпленьне чынавенскага клімату над замарожанай скалелай беларушчынай.**

**А што ж традыцыяналістыя? Рачным пяском налошчваюць самаплеценыя кальчугі, вычышчаюць Кагальны роў ад сьмецьця, пастаўляюць паваленыя вылюдкамі магільныя камяні, выпраўляюцца ў Добруш фатаграфаваць разьбяны дэкор мястэчковых сядзібаў.**

Малюнак: Я. Дворачкін. «Мораплаўнік»

# Ах, нарэшце у Добруш!



Нарэшце нехта сабраўся ў Добруш. Але гэтая выправа найменш нагадвае рэдактарам прапанаваны weekend, доўгачаканую паэтычную гарэзію з вінным пралогам і эпілогам, яна ў шэрагу дасьледваньняў што пасьлядоўна прадпрымаюць шчыроўцы драўлянага дэкору. Гэтым разам у Добрушы Жэня Малікаў, апантаны зьбіральніцтвам разьбяных адметнасьцяў, замацоўвае свой дасьледчыцкі імідж, а таму вока пазіраючае ў аб'ектыў фотаапарата "Зеніт ЕТ" павінна быць цьвердым і рэзкім як у снайпера, тут ужо як за рулем, трэба быць крыштальна цьвярозым. Дзякуючы гэтае цьвярозасьці, а таксама іншым зьбіральніцкім якасьцям: дапытлівасьці, уважлівасьці, пільнасьці ўдалося сабраць столькі дэкорнага матар'ялу, што цяпер паўстае праблема дзе захоўваць увесь вялізарны фотаархіў які пастаянна папаўняецца новымі арыгінальнымі ўзорамі.

Пішу артыкул менавіта з прычыны новых паступленьняў, таму, што Жэня Малікаў быў выправіўся ў Добруш на Ўзьдьвіжаньне, што, як высьвятляецца мае не абы-якое значэньне. Каму-нікаму з вас, шаноўныя ведама: апошнімі цёплымі восеньскімі днямі ўсе вужына-гадзючае сямейства выпаўзае перад сьцюжай-марозам пагрэцца пацешыцца, ды й рушыць у свае зімовыя падкалодныя сховы. Аказалася, што мястэчка літаральна заатакавана гмізамі*. Паўсюль трапляліся вужыскі, вужаняты, вужанятачкі. Хто з ладную вяроўчыну, хто з аборку, хто з забарсак** порстка перапаўзалі дамбу, зьвязвуючую добрусскія слабоды, таропка вілявалі па тратуарах і ўзбочынах, сьмела адольвалі смуродны асфальт. Гэткая процьма гадзінаў абумоўлена відаць тым, што мястэчка ёсьць разьмешчаным на разьліве Іпуці, мясьціне забалочанай і вільготнай, насычанай пратокамі, старыцамі, балацінамі багата парослай лістоўным лесам. Істоце імпануе такі прыродны асяродак і стуль вялікая іхняя колькасьць. Але не гэта зьдзівіла, бо аб'ектам дасьледваньня быў выбраны драўляны дэкор, а не паўзуны. І ўсё ж у Добрушы гэтыя дзве з'явы зьліліся ў адно.

"Гэта што значыць, вужы задзервянелі? — спытаўся адзін з нас не надта абазнаны ў этнаграфіі і заалогіі, - альбо..." — і далей яго фантазіі не хапіла (А на шыхтоўлю вось хапае! — **Шыхт.**).

Можна сказаць, што недзе яно так і ёсьць, хоць гучыць гэта трошкі абсурдна. Як на местачковых вулках гэтак і на ліштвах добрусскіх сядзібаў вуж ёсьць частым госьцем і не толькі частым, але і жаданым.

Жэня Малікаў схапіў аднаго жвавага полаза ды й перанес яго праз дарогу, каб пад колы ня ўбіўся. "Ох, у хлопца добрае сэрца" — адарыла камплімэнтам прахожая бабуля. Адчуваецца — у Добрушы вужы маюць спачуваньне. Карыстаюцца папулярнасьцю ў майстроў-сталяроў. Лепей за усё скажуць гэтыя прамалёўкі, зьмешчаныя на аксамітных старонках, дзе ясна выразна відаць хвалісты вужыны вобраз, адзін наскрозь прапілены зьвілістаю лініяй, другі - накладны вілюхасты ўтвараючы рэльефную кампазіцыю, нават з фантастычным вужова-расьлінным матывам. Чаго толькі ў Добрушы не сустрэнеш.

Гэтак Жэня Малікаў стаўся сьведкам залежнасьці дэкорна-разьбянога чыну ад традыцыянальнага ладу жыцьця навакольля, альбо скажам так: акаляючай біялагічнай сыстэмы. Гэтым фактам заўважана зацікавілася кола беліцкіх дасьледчыкаў. Пачуўшы пра значную прысутнасьць асьпідаў і пра тое, што гэтая акалічнасьць трывала зафіксаваная ў народнай разьбе ўстойлівым красамоўным вобразам, дасьледчыкі зьвярнулі ўвагу на іншую дэталь, а па-сутнасьці разьвілі тэму шырэй: адшукаўшы на добрусскіх ліштвах выяву цмака (а тое, што гэта ён, не выклікае аніякіх сумненьняў. **Аўт.**) высунулі гіпотэзу аб актуальнасьці памянёнай міфічнай істоты ў добрусскім навакольлі. Адзін з лідэраў беліцкіх цмакалюбаў, яфрэйтар Ліфаноўскі проста і недвусэнсоўна выказаўся з тае прычыны: "Усе адлюстраваныя ў народнае дамавое разьбе заалагічныя тыпы ня маюць ані цэню міфалагічнае казачнасьці. На Беларусі ня сталіся запатрабаванымі міфічныя істоты-мутанты, тыя сірыны, гамаюны, палканы ді іншая набрыдзь, што гэтак натуральна ўлілася у рускую народную рэзьбу стаўшыся яе неад'емным калярытным асьпектам. Таму з рашучасьцю адзначым рэальнасьць усіх разьбяных увасабленьняў, сустрэтых намі драўляных выяваў коней, яшчарак, вужоў, лебядзей, карасей і г.д. якія безумоўна дапаўняюцца надта распаўсюджаным вобразам - цмаком. Народ надзяляе звычайных прадстаўнікоў навакольнае фаўны чароўнымі незвычайна-надзвычайнымі якасьцямі, але паўтаруся, не давярае хваравітай фантазіі спараджаючай тытанаў і пачвар. Для нас факт існаваньня цмачынага племені відавочны і неабвержны і мы ніколі не сумняваліся ў сваёй кропцы погляду, раз-пораз знаходзячы доказам гэтага пастулата самыя нечаканыя інтэрпрытацыі ягонага вобраза ў драўляным дэкоры сядзібаў Гомеля, Рэчыцы, Дабрянкі..."



**Але мае даражэнькія, пакінем добрусскія абшары, маляўнічыя краявіды і драўляны дэкор да наступнага разу, пагатоў, што Жэня Малікаў нястомна адольвае новыя маршруты, шчоўкаючы фотаапаратам праз свае інтэлектуальныя акуляры, а мы перапаўзаем ад аднаго вужынага матар'ялу да другога, балазе адлегласьці ў нас — самі ведаеце — не дужа вялікія. Мяркуем, сталыя нашыя чытачы памятаюць: у сваіх ранейшых нумарах аксамітныя ўжо зьвярталіся да вужынае тэматыкі***, а хто-ніхто нават спадзяваўся што мы са сваімі вужамі задохліся, але вось жа не, тэма надзвычай актуальная, вабіць дасьледнікаў сваёю вастрынёй, таму нашымі днямі працягваем тыражыраваць паўзучыя сюжэты, балацяную хроніку і нездарма наш трывалы аўтар нястомна дадае ў аксамітную скарбонку трошкі свайго вужынага традыцыяналізму.**

* гміз — гад

** забарсак — шнурок

*** Хто можа — глядзіце архіў на нашай web-старонке http://tsmoki.narod.ru

# Бурымкаўская рэптылія

## гіпотэзы і факты

**І зноў на аксамітных старонках палеміка на цмачыную тэматыку – на гэты раз аксамітныя дасьдедчыкі спрачаюцца аб Бурымкаўскім цмаке, ці вужы? Альбо кракoдзіле?**



Гэтым разам на аксамітных старонках незвычайная знаходка: выява цмока вырэзанная на касьцяное пласьціне ад тронак* нажа (?), з гарадзішча Бурымка, што на Сосьніцкае зямлі ў Чарнігаўскае старане. Няхай ня дзівіць вас тое, што аксамітныя ўжо на Ўкраіну забраліся: межы ўстаўлялі урады і палітыкі, а ня вольныя мастакі з фалькларыстамі, таму ўсё непасрэдна блізкае замежжа – адзіны калярытны рэгіен, вузел народаў і пляменаў непарыўна злучанных спаміж сабою, а пра цмокаў й казаць-не-казаць, вось каму да сракі ўсе гэтыя межы.

Знаходка датуецца ажно XI ст. і для нас вельмі важная, бо ярка ілюструе цмачыную прысутнасьць у тые далекія часіны. Зрэшты, кола беліцкіх дасьледчыкаў прааналізаваўшы знаходку зацьвердзіла, што аніякі гэта ня цмок, а самы сапраўдны зьмій ці асьпід, які так добра знаемы па іконе "Цуда Георгія аб зьміі", дзе апошні працяты дзідаю ў горла зьцякае юшкаю й канае сутаргова круцячы хвастом усялякія каўбаскі. Што ж, маюць рацыю беліцкія дасьледчыкі, бо выява сама за сябе гаворыць — ~~ані~~водная з істотаў ня здолела завярнуцца ў гэткі балотны вузел, як тое нам дэманструе бурымкаўская зьмяюка.

Аднак Якаў Пятровіч Стывенсан адгукнуўся на такую высновy сваёй антытэзаю. Па яго паняцьцю "данное изображение иллюстрирует лишь больших размеров ящерицу, кои обитали некогда в топких болотистых местностях неподалеку от жилья человека". Сапраўды яшчэ на пачатку XX ст. пад менскім замышчам, у цэнтры горада, на гразкім беразе Сьвіслачы сустракаліся незвычайна буйных разьмераў яшчаркі. Далей Якаў Пятровіч недвусэнсоўна адзначае: "Уж не тот ли это крокoдил, которого наши горе-исследователи помещают лишь на страницы фольклорных материалов, а никак не в болота и озера, а зря..." ("Мои крокодилы" Я.П. Стивенсон стр. 12)

Так што самі бачыце, на аксамітных старонках распалілася палкая палеміка адносна бурымкаўскай знаходкі, што спадзяемся не пасварыць апанэнтаў, а наадварот паспрыяе трыюмфу ісьціны ў нашых нялегкіх беларускіх умовах.

Нам жа астаецца верыць, што патрыятычны запал паспрыяе вывучэньню цмачынае прысутнасьці, бо гэто адна з рамантычных тэмаў здольная кансалідаваць сапселае беларускае грамадзтва.

**Знаёмы Вам.**

* тронкі - рукаятка



(Прагледзеўшы гранкі артыкула пра Добруш пан рэдактар ледзь не паламаў іх аб маю галаву – «Колькі грошаў я вам пакінуў на фотастужку!!! І толькі дзеля дзьвух няўдалых здымкаў?!» І штосьці пра дармаедства і таннае віно, а потым пра Савіньён і сасіскі. З таго выкідаем абвестку гомельскага атрада самаабароны аб набыцьці рэвальвераў «Бульдог» і друкуем яшчэ два здымка добрусскіх ліштваў. – **Шыхт.**)






© Орыгінальна idea: Творчая кампанія вольных мастакоў «Магілка».
Рэдактар: Т. Буль-Бутэліч; Шыхтоўля: Алеська Марцін; Мастак: Андрусь Скідан;
На памылкі, калі ласка, увагу не зьвяртаць.
Асноўная частка нумару зроблена пад уплывам Baby, I Leaving You (L.Z.)

©ТКВМ «МАГІЛКА»
красавік 2001

Шукайце нас у сусьветнай павуціне па адрэсе http://tsmoki.narod.ru
E-mail: ales-martin@yandex.ru; FIDO: 2:452/67.70@FIDOnet
Падпісны тэлефон 48-89-90 (Алесь)
Папера афсэтная. Друк лазэрны. Наклад 281 ас.